Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

22 - 28 жніўня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№34 (122)

"МАЛАДЗЕЧНА-96" - чэмпіён Беларусі.

Трэцяга тысячагоддзя?..

2-я старонка.

## Падзея тыдня

# У Гродне беларусам адмаўляюць у навучанні па-беларуску. І не толькі ў Гродне

*Прынамсі, Юрыю Мацко адмоўлена Ленінскім раённым судом Гродна у аднаўленні навучання яго дачкі Агаты на беларускай мове. У 1991 годзе паміж бацькамі і СШ №10 быў заключаны дагавор, згодна з якім навучанне ў класе Агаты павінна было адбывацца па-беларуску. Праз колькі год, відаць, пад уплывам неспрыяльных для беларускай мовы падзей, большасць бацькоў пагадзілася на перавод класа на рускую мову навучання.*

Аднак з такой сітуацыяй не пагадзіўся пан Мацко, маючы на ўвазе права, дадзенае яму Канстытуцыяй: **Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносінаў. Дзяржава гарантуе, згодна з законам, свабоду выбару мовы выхавання і навучання.**

Гэтая гісторыя мае рэзананс у сродках масавай інфармацыі рэспублікі. Аднак, падаецца, больш небяспечна не тое, што беларускія класы пераводзяць на рускую мову навучання гвалтоўна такім чынам, а тое, што многія настаўнікі самі, прыходзячы напачатку навучальнага года ў беларускія класы, прапануюць дзецям перавесці выкладанне іх прадмета на рускую мову. Прычынамі могуць называцца нястача падручнікаў, няўменне самога выкладчыка весці прадмет на адной з дзяржаўных моў. У выніку многія намінальна беларускія класы становяцца рускамоўнымі. Рэдакцыя мае намер абнародаваць інфармацыю з нашага рэгіёна, з указаннем прозвішчаў настаўнікаў, якія па сваёй ініцыятыве "пераводзяць" класы з беларускай мовы навучання на рускую. Калі ў вас будуць такія звесткі - тэлефануйце па нумары "Рэгіянальнай газеты". Усяго праз тыдзень пачатак новага навучальнага года.

*Якім ПЯРЭЧКА.*

## Лёсы людскія

# "Я пакінутая, быццам сабака"

*МАЛАДЗЕЧНА. Сярод апошніх месцаў жыхарства Вольгі Будзько значыцца афіцыйная прапіска: "Чыгуначная будка. 653 км". Ні вобласці, ні раёна.*

Са слоў гаспадыні, барак-будка стаіць за Лазаўцам, сярод лесу. Менавіта там нарадзілася яе дачка Лізавета, цяпер другакласніца СШ №7. Трэці член сям'і - маці і бабуля, былая настаўніца. Утрох жывуць у пакоі інтэрната, дзе самая каштоўная рэч - магнітафон "Беларусь". Ні халадзільніка, ні тэлевізара. Нават без шпалераў, на сценах - голая тынкоўка. Посуд стаіць пад ложкамі. На падлозе замест дывана - коўдра. Самаробная паліца і тумбачка, у якую Вольга хавае свае лекі. 18-метровы пакой знутры нагадвае тую ж будку.

**Вольга Будзько** - інвалід дзяцінства. Нарадзілася ў вёсцы Маркава. Вучылася за дзяржаўны кошт у Бараўлянах, Смілавічах, Маладзечне. У яе маці не склалася асабістае жыццё. Сама сірата, ужо ва ўзросце засталася без даху над галавою - выгнаў муж. Менавіта тады жанчыны - "старая і маладая" - вырашылі будаваць сваё жыццё з нуля. Але і праз 13 год пенсіянерка і 29-гадовая Вольга не могуць нармальна яго наладзіць.

**Вольга:**

- Чатыры гады, як скасавала шлюб з Мікалаем. Спіўся зусім. 18 месцаў работы змяніў. Падымаў на вуліцы недапалкі, даношваў мае штаны. Паўчалавек. З'ехаў на Мядзельшчыну да бацькі. Атрымліваю аліментаў 250 тысяч, на дзіцё 170, маю пенсію ў 280. Здаецца, я самая гаротная.

*Заканчэнне на 2-й стар.*

## Адным абзацам

На Украіне ўступіла ў дзеянне падпісанае год таму Пагадненне аб бязвізавых паездках паміж Украінай і Польшчай. Пры перасячэнні граніцы - нават прыватна - не трэба мець запрашэнне ці ваўчар, віза неабходная толькі ў выпадку, калі той, хто прыязджае, мае намер застацца ў краіне на тэрмін, большы за 90 дзён.

З 1 верасня, згодна з Пастановай Савета Міністраў, незабяспечаныя інтэрнатамі іншагароднія студэнты ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў будуць атрымліваць кампенсацыю. Аднак памер выплат - 25% мінімальнай зарплаты (крыху больш за долар) - наўрад ці дазволіць бяздомнаму студэнту наняць пакой, не гаворачы ўжо пра кватэру.

Прэзідэнтам рэспублікі падрыхтаваны чарговы Дэкрэт аб мерах па ўпарадкаванні эканамічных адносінаў, які ўтрымлівае вялікую колькасць штрафных санкцый, прымяняемых да суб'ектаў гаспадарання. Для юрыдычных асоб і прадпрымальнікаў, якія здзяйсняюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, дэкрэтам устанаўліваецца эканамічная адказнасць у 22 выпадках; у 7 выпадках адміністрацыйная адказнасць будзе ўзмоцненая.

Прэзідэнт Расіі Б. Ельцын падпісаў указ аб рэфармаванні радыёвяшчання. Будуць ліквідаваныя радыёстанцыі "Радыё 1", "Юнацтва", рэфармаванае "Радыё 2" і ўтвораная адзіная радыёстанцыя "Маяк". Гэта мусіць адбіцца і на радыёвяшчальнай сетцы нашай краіны.

Распачата праектаванне будаўніцтва новай тэлевізійнай вежы ў Мінску вышынёй 410 м. Яе плануецца ўвесці ў раёне праспекта Машэрава. Гэта дазволіць значна пашырыць зону ўпэўненага прыёму і колькасць праграм тэлебачання. Звычайны тэрмін будаўніцтва такіх аб'ектаў пяць гадоў, беларусы збіраюцца ажыццявіць яго за тры.



## Газеты

# Выдаўцы незалежнай мясцовай прэсы Польшчы і Беларусі - у Маладзечне

*МАЛАДЗЕЧНА. Сёння ў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты" пачынае сваю работу міжнародны семінар "Незалежная мясцовая прэса ў Беларусі і Польшчы: параўнанне".*

Семінар, у якім возьмуць удзел выдаўцы і журналісты з мясцовых газет Польшчы і Беларусі, праводзіцца па ініцыятыве і пры ўдзеле Інстытута на карысць дэмакратыі ва Усходняй Еўропе IDEE (Варшава). На працягу чатырох дзён беларускія і польскія газетчыкі будуць весці гутарку аб прафесійных сродках журналістаў, дызайне выданняў, фінансах мясцовай газеты ва ўмовах рыначнай эканомікі, сучасных спосабах абмену інфармацыяй з інфармацыйнымі агенцтвамі.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Жнівень

# Газеты і газетчыкі

Карэспандэнт смаргонскай раёнкі "Светлы шлях", а таксама наш аўтар, **Тарэса Кумішча** за асвятленне жніва ўзнагароджаная наручным гадзіннікам.

Валожынская раёнка **"Працоўная слава"** у час жніва выходзіць тры разы на тыдзень (замест двух). Гэта тлумачыцца неабходнасцю аператыўнага асвятлення кампаніі.

*Аддзел інфармацыі.*



## Анонс

# Фрау Граве любіла страляць з пісталета



На гэтым здымку, зробленым у Вілейцы падчас апошняй вайны, сфатаграфавана група службоўцаў СД.

У цэнтры групы (у рамцы)-- кіраўнік аддзялення СД у Вілейцы Рудольф Граве разам са сваёй жонкай і дачкой, якія прыехалі ў Беларусь "на пабыўку". Па сведчаннях вілейчаніна Івана Баслыка, *"фрау Граве была высокага росту, хударлявая. Бачыў, як жонка Граве выходзіла з дома, у якім жыла, на турэмнай сцяне рысавала кругі і страляла з пісталета"*.

Забавы немцаў былі зусім не бязвіннымі. Пад кіраўніцтвам пана Граве на Вілейшчыне вынішчаныя тысячы мірных жыхароў. У большасці сваёй -- яўрэяў.

**З наступнага нумара мы пачынаем публікаваць дакументальны матэрыял, падрыхтаваны старшым навуковым супрацоўнікам вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея Вольгай КОЛАСАВАЙ, аб гэтых злачынствах.**

